


## ПАВАЖАНЫЯ ЧЫТАЧЫ!

**На I паўгоддзе 2001 года падпісная цана на "ГАЗЕТУ ДЛЯ ВАС" складае:**

**<u>для індывідуальных падпісчыкаў</u> (індэкс 63834) на адзін месяц — 427 рублёў, на квартал — 1281 рубель, на паўгоддзе — 2562 рублі.**

**<u>для ведамаснай падпіскі</u> (індэкс 64145) на адзін месяц — 1182 рублі, на квартал — 3546 рублёў, на паўгоддзе — 7092 рублі.**

**Газет для вас выдаецца шмат. "ГАЗЕТА ДЛЯ ВАС" толькі адна. Не забудзьцеся падпісацца на яе.**


# Газета для вас

ІВАЦЭВІЧЫ–БАРАНАВІЧЫ–БЯРОЗА–ПРУЖАНЫ





№50 (261) 15 — 21 снежня 2000 г. ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ НЕЗАЛЕЖНЫ ШТОТЫДНЁВІК, ВЫХОДЗІЦЬ СА СТУДЗЕНЯ 1997г.


# СНЕЖАНЬ. У "БАЛЬШАВІКУ"... ПРАЦЯГВАЕЦЦА ЎБОРКА БУЛЬБЫ

***Гэты здымак зроблены 8 снежня г. г. ва ўрочышчы "Старына" (у паўкіламетры ад вёскі Падстарынь) на бульбяным палетку калгаса "Бальшавік". Увесь лістапад і пачатак снежня тут капаюць бульбу. Капаюць жыхары Падстарыні, Азярца, нават з Івацэвічаў прыязджаюць людзі. Зараз бульбяны бум трохі спаў, бо перашкаджае дрэннае надвор'е. Тым не менш большасць калгаснага поля нанава перакопваецца. Нават трактарамі з "трасучкамі" сюды прыязджалі, коньмі з вазамі і плугамі.***



"А што ж калгас не капаў бульбу?" — спытае чытач. Вядома капаў. Але не ўсю. У даліне і пад лесам цалюткія рады засталіся, а, значыць, большая частка клубняў засталася ў зямлі. Закончыць уборку не хапіла саляркі, не гаворачы ўжо пра паўторную ўборку ці пераворванне. Так кажуць падстарынцы.

8 снежня зранку на полі корпалася некалькі чалавек. А ўжо бліжэй к абеду поле было літаральна ўкрыта людзьмі. З адной з жанчын я пагутарыў. Гэта пенсіянерка. У 10 гадзін 30 мінут раніцы яна ўжо накапала тры дзесяцікілаграмовыя кошыкі.

— А вунь тая жанчына, што завіхаецца ў даліне, — кажа пенсіянерка, — ужо два пагрaбы картопляў нацягала адсюль. Там, у даліне і пад лесам, дык цэлыя рады паставаліся. Учора сама яна шэсць мяхоў накапала...

Паездка на палетак ля Падстарыні яшчэ раз пацвердзіла, што нашы калгасы канчаткова развальваюцца. Калі тую ж бульбу неяк змаглі пасадзіць, то ўбраць не хапіла ні сіл, ні сродкаў. Як сказаў адзін з вядомых кінагерояў, за дзяржаву крыўдна.

*Святаслаў КАЖАДУБ.*
*Фота аўтара.*
*Івацэвіцкі раён.*

## Лячэбны корпус

**БЯРОЗА.** Здаецца, у нашым горадзе нарэшце завершана будаўніцтва лячэбна-дыягнастычнага корпуса раённай бальніцы.

У свой час лічылася, што гэты корпус чакае невясёлая доля звычайнага доўгабуда. Аказалася, што райвыканкам трымае сітуацыю пад кантролем. Ужо завершаны апрацоўчыя работы, устаноўлена сантэхніка. Пад Новы год памяшканне знешне ўжо нічым не будзе адрознівацца ад іншых пабудоў райбальніцы. Для ўвядзення яго ў эксплуатацыю яшчэ патрабуюцца значныя сродкі для закупкі апаратуры, абсталявання.

*Валянціна АМЕЛЬЧАНКА.*

## Смерць ля тэлевізара

**БАРАНАВІЧЫ.** У суботу, 9 снежня, у адным з населеных пунктаў Баранавіцкага раёна ва ўласным доме ад выбуху тэлевізара загінуў 49-гадовы ўрач Г. Прычынай выбуху старога тэлевізара з радасным названнем "Вясёлка" стала замыканне блока радковай разгорткі (у свой час гэтыя блокі былі прызнаныя пажаранебяспечнымі і бясплатна замяняліся праз гарантыйныя майстэрні). Жонка ўрача заўважыла агонь (распачаўся пажар) і пачула крыкі мужа, але выратаваць яго ўжо не змагла.

*Аляксандр МІХАЛЕНКА.*

## "Мы их душили, душили..."

**ПРУЖАНЫ.** Местный райисполком принял распоряжение № 1470, согласно которому к процессу отлова и уничтожения бродячих собак и кошек могут подключиться и рядовые граждане.

Каждый житель г. Пружаны и района получит 1000 рублей, если сдаст на предприятие по благоустройству бродячего собаку, 300 рублей — если сдаст кошку. Те животные, за которыми (после 72 часов нахождения на предприятии) не обратятся их хозяева, уничтожаются. Если хозяин обратится — его ждет штраф за нарушение правил содержания животных. Распоряжение действует до 1 июля 2001 года, причина его появления — рост заболеваний бешенством.

*Кристина КРУГЛЕВИЧ.*

## Збіў, спалохаўся, павесіўся

**ПРУЖАНЫ.** У пачатку гэтага месяца ў вёсцы Лінова ў сям'і, дзе муж і жонка сябруюць з зялёным змеем (а ў гэты дзень яны атрымалі два мяшкі цукру — за прапалку і ўборку цукровых буракоў), узнікла звычайная бытавая сварка. Муж збіў жонку, а калі раніцай ён падышоў да яе, ляжачай на ложку, то ўбачыў, што яна была ўжо мёртвай. Пасля чаго сам павесіўся.

Між тым, судовы эксперт, які зрабіў анатаміраванне трупа жанчыны, прыйшоў да высновы, што ў жанчыны сэрца спынілася ў сувязі з алкагольным атручваннем, а не па прычыне атрыманых пабояў.

*Крысціна КРУГЛЕВІЧ.*

ЧАС РЭСПУБЛІКІ

## Закрытие ЧАЭС намечено на 15 декабря

***Владимир Ермошин 14 и 15 декабря примет участие в официальной церемонии закрытия Чернобыльской АЭС.***

По предварительной информации, в ходе визита он в числе других приглашенных ознакомится с технологией и процедурой остановки станции, порядком обслуживания ЧАЭС после ее закрытия, посетит город Славутич, где запланировано возложение цветов к скульптуре "Прометей", встреча с жителями города и посещение международной радиологической лаборатории. Кроме того, планируется участие белорусского премьера в поминальной акции в Киеве в честь погибших, встреча с президентом Украины Леонидом Кучмой и руководителями иностранных делегаций, участие в торжествах по случаю акта закрытия ЧАЭС в Национальном дворце "Украина".

## Фальсификация" обвинения

***Консультативно-наблюдательная группа (КНГ) ОБСЕ направила компании БелаПАН официальный ответ руководителя КНГ Ханса-Георга Вика на обвинения, прозвучавшие в адрес ОБСЕ в фильме Юрия Азаренка "Почти секретные материалы", а также программе "Панарама", которые транслировались по Белорусскому телевидению 8-9 декабря.***

Суть этих обвинений сводилась к тому, что КНГ ОБСЕ оказывает поддержку белорусской оппозиции в преддверии выборов президента и таким образом выходит за рамки своих полномочий.

"В настоящее время, - говорится в документе, распространенном КНГ ОБСЕ 11 декабря, - белорусское телевидение... начало пропагандистскую кампанию против посла Вика, Консультативно-наблюдательной группы ОБСЕ, а также ОБСЕ. Обвинения, выдвинутые в этих программах против ОБСЕ, являются сфальсифицированной информацией, направленной на подрыв престижа и позиции вышеупомянутой организации и ее представителей".

## Михаил Чигирь лидирует

***Бывший премьер-министр Беларуси Михаил Чигирь лидирует по итогам рейтингового голосования членов Национального комитета Объединенной гражданской партии (ОГП) по поводу единой кандидатуры от демократических сил на президентских выборах 2001 года.***

Как показали результаты голосования, проведенного 9 декабря на очередном заседании комитета, беспартийный Михаил Чигирь набрал 51 очко. За ним следуют: бывший министр обороны, член ОГП Павел Козловский (49 очков), лидер незарегистрированного объединения "Гродненская инициатива", беспартийный Семен Домаш (47) и председатель ОГП Анатолий Лебедько (45).

## Сутки в Брестском изоляторе

***Лишь 11 декабря были освобождены, задержанные в Бресте жители областного центра, которые организовали 10 декабря несанкционированный пикет.***

Однако суд над ними не состоялся, так как судья счел нужным отправить присланные из отдела милиции Ленинского района дела обратно - для того, чтобы сотрудники милиции соблюли все необходимые в таких случаях процессуальные нормы.

Как уже сообщал БелаПАН, в воскресенье в Бресте состоялось несколько пикетов по случаю очередной годовщины принятия Всеобщей декларации прав человека. Один из них - на площадке у ЦУМа - был несанкционированным. Все пятеро его участников были задержаны и доставлены в изолятор временного содержания Ленинского РОВД. Там были составлены протоколы о нарушении организации проведения пикета, а также протоколы о привлечении к ответственности за неповиновение требованиям работников милиции.

11 декабря, в 11 часов 30 минут руководитель областной организации правозащитного центра "Весна" Владимир Величкин, безработный Кирилл Данько, электромонтер троллейбусного управления Олег Дыдышко, преподаватель Брестского государственного университета Евгений Беласин и внештатный корреспондент "Комсомольской правды в Белоруссии" Сергей Бахун были доставлены в суд.

*(БелаПАН).*

ЧАЦВЁРТАЯ ЎЛАДА

# Людзей паслухаць, сябе паказаць

***Супрацоўнікі "Газеты для вас" сістэматычна прымаюць удзел у семінарах і нарадах, якія праводзяцца як у Беларусі, так і за яе межамі.***

Што гэта дае нам? Узбагачае прафесійнымі ведамі па выкарыстанню галоўнай функцыі газеты — аб'ектыўнаму і даставернаму інфармаванню насельніцтва, узбагачае вопытам выдання незалежнага сродка масавай інфармацыі ва ўмовах адміністрацыйна-каманднай сістэмы постсавецкага часу.

На мінулым тыдні рэдактар "Газеты для вас" Лідзія Цалуйка прымала ўдзел у міжнародным семінары "Беларусь: СМІ і выбары", які быў арганізаваны Еўрапейскім інстытутам мас-медыа і Беларускай асацыяцыяй журналістаў (БАЖ) у Мінску. Перад журналістамі незалежных сродкаў масавай інфармацыі выступілі Душан Рэліч, Джыліан МакКормак (Еўрапейскі інстытут мас-медыа), Джованна Майола (Італія), Душан Стойкавіч, юрыст з Сербіі, Андрэй Вардамацкі, дырэктар незалежнай сацыялагічнай лабараторыі "Новак", Жанна Літвіна, Міхаіл Пастухоў, Андрэй Бастунец, Юрый Тапарашаў (БАЖ) і іншыя спецыялісты ў галіне журналістыкі і права.

У гэтыя ж дні IREX/ProMedia і агенцтва журналісцкіх даследаванняў (Санкт-Пецярбург) правялі вучэбна-практычны семінар "Журналісцкае расследаванне. СМІ і барацьба з карупцыяй", у якім прыняў удзел карэспандэнт "Газеты для вас" Аляксандр Горбач. Гэты семінар вялі даволі вядомыя сярод расійскіх калег журналісты санкт-пецярбургскіх выданняў, сярод якіх быў і аўтар сцэнарыя фільма "Бандыцкі Санкт-Пецярбург", аўтар сцэнарыя многіх кніг, прысвечаных крыміналізацыі расійскай паўночнай сталіцы Андрэй Канстанцінаў.

*Святаслаў КАЖАДУБ.*

КРЫМІНАЛ

## Яшчэ адзін маньяк затрыманы

**ІВАЦЭВІЧЫ.** Яшчэ не паспелі забыцца страхі пра маньяка, які ў мінулым месяцы з'явіўся ў Івацэвічах і быў затрыманы работнікамі міліцыі, як зноў пайшлі чуткі пра новага. І небеспадстаўна.

5 снежня вечарам адбыліся чатыры выпадкі нападу на мясцовых жанчын, жахарак г. Івацэвічы. Ля пад'езда дома № 37 па вуліцы Леніна прыкладна каля 20 гадзін невядомы мужчына выхапіў у жанчыны сумку з прадуктамі і ўцёк.

Ужо каля 22 гадзін у скверы па вуліцы Камсамольскай малады мужчына, прымяніўшы сілу, забраў у жанчыны, што ішла з вакзала, грошы ў суме 2500 рублёў, не пагрэбаваў нават пачкай цыгарэт "Арбіта".

У той жа вечар паблізу СШ № 3 зноў жа невядомы падонак напаў на маладую жанчыну, забраў у яе грошы і каштоўныя рэчы, спрабаваў згвалтаваць яе. На яе крык аб дапамозе ( ці так супала, ці пачуў крык) паявіўся мужчына на веласіпедзе. Гэта і выратавала жанчыну. Рабаўнік і гвалтаўнік збег.

Міліцэйскі нарад у той жа вечар 5 снежня затрымаў рабаўніка і гвалтаўніка. Ім аказаўся жыхар вёскі Аброва Івацэвіцкага раёна. Быў ён раней асуджаны за крадзёж і гвалтаванне. У жніўні гэтага года вярнуўся з турмы. Нідзе не працаваў. Яму 23 гады.

Па выяўленых фактах рабаўніцтва і гвалтавання ўзбуджана крымінальная справа. Вядзецца следства.

Гаворачы пра названыя факты, хачу папярэдзіць жыхароў райцэнтра, асабліва маладых жанчын, праяўляць пільнасць, не хадзіць па цёмных і пустых вуліцах па адной. Ля кожнага слупа, як кажуць, міліцыянера не паставіш, таму трэба берагчыся і самім. А калі нешта здарылася, то неабходна паведамляць у міліцыю і не чакаць, калі гэта зробіць хтосьці іншы. Нам вельмі важныя своечасовыя паведамленні аб здарэнні. Гэтым вы толькі дапаможаце следству.

*Аляксандр ГЛУШЭНЯ,*
*начальнік крымінальнага вышуку Івацэвіцкага райаддзела міліцыі.*

## Мошенники — каста особая

**БАРАНОВИЧИ.** В Барановичах был задержан мужчина, в кармане у которого обнаружили 3 тысячи фальшивых долларов. Задержанным оказался Николай Щербатюк, в отношении которого возбуждено уголовное дело по ст. 84 ч. 1. Кроме того, в отношении Щербатюка возбуждены уголовные дела по фактам мошеннических действий, в результате которых он завладел деньгами доверчивых граждан. Таковых набралось немало, ибо Щербатюку удалось завладеть примерно 120 тысячами долларов. Следственный отдел Управления Следственного Комитета при МВД РБ по Брестской области расследует данное уголовное дело и ***просит лиц, которые стали жертвами мошеннических действий обращаться в 233 кабинет ГОВД, либо по тел. 42-17-19 или 02.***

*Галина СТРОЦКАЯ.*

РЭЧАІСНАСЦЬ




*Малюнак Аляксандра ВАРАНЦОВА (г. Івацэвічы).*

РЫНКАВАЯ ПЛОШЧА

# ШТО ПАЧЫМ?

***Цэны на рынках нашага рэгіёна па стану на 13.12.2000 г. (у руб. за адзін кілаграм):***

| | Івацэвічы | Баранавічы | Бяроза | Пружаны |
|---|---|---|---|---|
| Свініна | 2400—2700 | 2500—3800 | 2500—3600 | 2400—2900 |
| Сала салёнае | 1800 | 1800—2400 | 2700 | 2600 |
| Алей (1 л) | 730—950 | 700—1100 | 750—950 | 700—1000 |
| Яйкі | 900 | 800—1000 | 800—1000 | 1000 |
| Малако (3 л) | 600 | 550 | 560—600 | 550 |
| Шпроты | 400—420 | 400—420 | 400—420 | 400—420 |
| Масла сметанк. | 1800 | 1900 | 2000 | 2000 |
| Бульба | 80—100 | 100—120 | 100 | 80 |
| Цыбуля | 250 | 120—160 | 150—200 | 200 |
| Морква | 200 | 100—150 | 180 | 200 |
| Капуста | 70—100 | 100—120 | 100 | 80 |
| Грушы | — | 600—1000 | 200—400 | 400 |
| Буракі | 60—80 | 60—80 | 60—80 | 80 |
| Мандарыны | 1500—1600 | 1500 | 1500 | 1500 |
| Грэцкія арэхі | 1000 | 1500 | 1500 | 1200 |
| Яблыкі | 150—400 | 200—750 | 200—300 | 100—700 |
| Памідоры | 1200 | 1200 | 1200 | 1200 |
| Вінаград | 1000—3500 | 900—1800 | 1600 | 2000 |
| Хурма | 1600 | 1600 | 1700 | 1200 |
| Часнок | 800 | 800 | 1000 | 300—800 |
| Лімоны | 1300 | 1100—1300 | 1300 | 1300 |
| Апельсіны | 650—850 | 650—720 | 790 | 900 |
| Бананы | 700—850 | 650—720 | 790 | 900 |
| Гранаты | 1600—1900 | 1800 | 1500 | 1600 |
| Грэчка | 580—660 | 650 | 650 | 650 |
| Макар. вырабы | 320—460 | 300—400 | 510—550 | 350—600 |
| Рыс | 480—520 | 400—420 | 450 | 460—490 |
| Манныя крупы | 460—500 | 460 | 400—500 | 460 |
| Проса | 320 | 330 | 360 | 360 |
| Цукар | 550 | 550 | 550 | 550 |
| Мёд | 3.300 | 4.000 | 3.600 | 4.000 |

**ВАЛЮТА НА "ЧОРНЫМ" РЫНКУ (руб.)**

| | купля | продаж | купля | продаж | купля | продаж | купля | продаж |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 долар ЗША | 1180 | 1300 | 1180 | 1300 | 1180 | 1300 | 1200 | 1300 |
| 1 дойчмарка | 480 | 520 | 470 | 520 | 500 | 520 | — | — |
| 1 рубель Расіі | 40 | 44 | 40 | 44 | 40 | 44 | 40-41 | — |

● ЕСТЬ ВОЗМОЖНОСТЬ

# ВЫ ХОТИТЕ УЗНАТЬ О СВОИХ ПРАВАХ?

У Вас есть такая возможность. Начиная с 4 декабря с.г. Центр по изучению ООН (проект Программы развития ООН, Управления Верховного комиссара ООН по делам беженцев и Белорусского государственного университета) проводит акцию "Каждый человек имеет право знать о своих правах". Цель акции - информировать каждого желающего о его правах и свободах, признанных в основополагающих международных документах. Этими документами являются:

- **Всеобщая декларация прав человека**
- **Декларация о праве и обязанности отдельных лиц, групп и органов общества поощрять и защищать общепризнанные права человека и основные свободы.**

Всеобщая декларация прав человека была принята 10 декабря 1948 года Генеральной Ассамблеей ООН. Всеобщая декларация прав человека - это основной международный документ, провозглашающий неотъемлемые и нерушимые права всех членов человеческой семьи. Ее назначение - служить "в качестве задачи, к выполнению которой должны стремиться все народы и все государства". Всеобщая декларация прав человека требует обеспечения защиты от несправедливых законов и практики на том основании, что независимо от характера существующего законодательства люди наделены определенными правами уже потому, что они принадлежат к человеческой расе. Ни одно государство, заявляющее о своей приверженности соблюдению прав человека, не может игнорировать положения Декларации.

Декларация о праве и обязанности отдельных лиц, групп и органов общества поощрять и защищать общепризнанные права человека и основные свободы была принята Генеральной Ассамблеей ООН 9 декабря 1998 года. Декларация провозглашает право каждого человека - индивидуально и совместно с другими - стремиться защищать и осуществлять права человека и основные свободы. Кроме того, Декларация возлагает основную ответственность и обязанность защищать и осуществлять права человека на государство.

**Для того, чтобы БЕСПЛАТНО получить карманную книжку с текстами этих деклараций, достаточно прислать конверт с обратным адресом в Центр по изучению ООН (220107, Минск, ул. Академическая, 25, ком. 406). Принимаются коллективные заявки от любых организаций, учреждений и предприятий. Организациям, находящимся в Минске, необходимо организовать самостоятельный вывоз книжек из Центра по изучению ООН. Организациям, находящимся в других населенных пунктах, предлагается либо организовать самостоятельный вывоз (что предпочтительнее), либо обратиться с просьбой о высылке их почтой. Во втором случае Центр возьмет на себя все почтовые расходы, но количество книжек будет ограниченным, а срок доставки - более продолжительным.**

Книжка - это всего только книжка. Всеобщая декларация прав человека - это нечто большее, чем просто декларация. Ведь именно права человека делают нас людьми. Они подобны воздуху. Мы задумываемся о них только тогда, когда становится нечем дышать. Так Вы хотите знать о своих правах?

*Центр по изучению ООН, 2000.*
*Акция "Каждый человек имеет право знать о своих правах".*

● КОНКУРС

## "САМАЯ ОБАЯТЕЛЬНАЯ И ПРИВЛЕКАТЕЛЬНАЯ"



*МАША, по гороскопу — Скорпион.*
*Люблю весёлые компании, у меня много друзей, слушаю песни Энрике Иглесиаса, Карлоса Сантаны.*
*Обожаю смотреть фильмы, где в главных ролях — красивые мужчины. Такие, как Антонио Бандерас в фильме "Отчаянный".*
*Нравятся весёлые, честные, интеллектуально развитые молодые люди.*

☎ АЛЁ, РЭДАКЦЫЯ?

# Дабраахвотна-прымусова

*"Газета для вас"? Ці чулі вы пра абдзіралаўку, якую ўчынілі ў школах Івацэвіцкага раёна?*
*Справа датычыць латарэйных білетаў "Бярэсце", якія нас, настаўнікаў і персанал, прымушаюць купіць. Білет каштуе 1000 рублёў. Чаму мы пры нашых мізэрных заробках павінны выкідваць гэтыя грошы напярэдадні навагодніх святаў? Лепш за іх дзіцяці набор цукеркаў купіць...*
*Жаночы голас ад імя калектыву адной са школаў Івацэвіцкага раёна."*



Фота IREX/ProMedia.

Каб высветліць сітуацыю, мы пазванілі ў адміністрацыю школы. Завуч абуралася:

— Ніхто нікога не прымушае купляць гэтыя латарэйныя білеты.

**— Але чаго ж людзі ў рэдакцыю звоняць?**

— Няхай звоняць. Але я вымушана гэтыя білеты прадаць, бо ў РАА мне сказалі прынесці за іх грошы.

**— А калі грошы не прынясеце! Зрэшты, колькі ўжо білетаў прадалі?**

— Прадала 20, засталося яшчэ 80. Калі не прадам астатнія, занясу іх назад у РАА. Ды ў чым справа? Не мне адной гэтыя білеты давалі. Кожнай школе — па колькасці работнікаў. Трэба прадаць, значыць, трэба. Пра што тут пісаць?

**— А Вам не здаецца, што гэты дабраахвотна-прымусовы продаж-пакупка з'яўляецца характэрнай рысай нашай адміністрацыйна-каманднай сістэмы, якая ўсё ж дэкларуе прынцыпы дэмакратыі, свабоды і захавання правоў чалавека!**

— Я не хацела б гаварыць на гэтую тэму і не хацела б, каб пра нашу школу такім чынам пісала газета. Нічога добрага ад гэтага не будзе...

XXX

Цяжка жыць у дзяржаве, дзе настаўнік не мае годнай зарплаты. Яшчэ цяжэй ад таго, што ён баіцца выказваць свабодна тое, што думае. Ці можа ён у такім стане выхоўваць свабодных, вольна мыслячых людзей?

Што датычыць самой дабраахвотна-прымусовай латарэі, крыўдна за тых дзяржаўных чыноўнікаў, якія спрабуюць такім чынам вырашаць фінансава-эканамічныя праблемы краіны.

*Лідзія ЦАЛУЙКА.*

# У горадзе... страляюць

*Я — жыхар г. Івацэвічы. Даўно жыву тут. Усяго пабачыў і пачуў. Але раней я не заўважаў, каб столькі стрэлаў гучала ў горадзе. То ў адным канцы яго, то ў другім, то ў цэнтры. "Страляюць" дзеці розных узростаў. Узрываюць петарды і прытым у людных месцах. Здаецца, што наступае не мірны час. Няўжо трэба чакаць, калі здарыцца бяда? Ці ў стане нашы ўлады і міліцыя спыніць гэтую траскатню? Калі ласка, адкажыце мне на пастаўленныя пытанні праз газету.*

*Мацвей Сідаравіч.*
*г. Івацэвічы.*

Каб адказаць на пытанне нашага чытача, мы патэлефанавалі ў Івацэвіцкі райвыканкам. Намеснік старшыні райвыканкама па ідэалагічных пытаннях **Л. К. Скіндзер** паведаміў, што ў сувязі з павелічэннем колькасці няшчасных выпадкаў райвыканкам прыняў распараджэнне, якім з 11 снежня 2000 года па 15 студзеня 2001 года забараняецца работнікам гандлю ўсіх форм уласнасці прадаваць піратэхнічныя сродкі (петарды, ракеты і інш.). Забараняецца таксама выкарыстанне іх ва ўстановах адукацыі, культуры, у грамадскіх месцах, на правядзенні святаў Навагодняй ёлкі.

Жыхары Івацэвічаў спадзяюцца, што наша міліцыя зможа ўціхамірыць як гандляроў, так і падлеткаў, якія штодзённа палохаюць людзей выстраламі петардаў.

● ГЛАС НАРОДА

# Что с нами стало?

*Казалось бы, что наше общество развивалось довольно динамично, люди становились более грамотными и эрудированными, история и культура проникли во все социальные слои человечества. Однако это не совсем так. По причине постоянного недостатка средств на существование человек отодвинул на второй план свое самое большое богатство — уважение к тому, что было и что есть за материальной чертой. Многое забыто, изувечено, а у некоторых вызывает равнодушную насмешку.*

*Почему же так происходит? С таким вопросом я обратилась к жителям города Пружаны.*

**Яковлев Вадим, 38 лет:** — Это не моя вина, что я не знаю большинства праздников, плохо разбираюсь в живописи и прочем, это жизнь такая сложная. Постоянно не хватает денег не то что на развлечения, а на то, чтобы не выглядеть оборванцем. Приходится мотаться за границу. А о культуре среди моих друзей и поговорить не с кем.

**Катюк Ольга, 29 лет:** — Я уважаю искусство, ценю славянский народ, но история — это потёмки. Я помню только её отрывки. Книги русских классиков не читаю. Обращаю внимание не на проблемы прошлого, а на происходящее вокруг меня.

**Усатенко Ирина, 16 лет:** — Изучаю историю углубленно, потому что буду поступать на юрфак, но не очень люблю этот предмет. Мне кажется, история написана с большими искажениями, то есть не очень честно. А что касается культуры, у нас есть предмет МХК, где можно узнать о жизни многих выдающихся людей.

**Кирилл Викторович, 46 лет:** — Телевизор заменил книги, вот и всё. Видеоаппаратура гноит молодёжь, не позволяет обрести себя. Сейчас многие стыдятся своего родного белорусского языка. А вы о традициях спрашиваете.

**Тельпук Александр, 20 лет:** — Все воспитаны под влиянием окружающих, привыкнув повторять поступки других людей. Многие боятся отличаться от толпы, проявляя свой ум, и делают как все. Я не отношусь к таким.

**Анастасия Фёдоровна, пенсионерка:** — Я об этом давно не думала. И вообще, сейчас мало кто обращает на это внимание. По телевизору показывают только разврат, убийства и жадность к деньгам.

**Ещё около десятка опрошенных придерживались мнения большинства, а именно: обвиняли во всем систему информации, "компьютерную эпидемию" и низкий уровень жизни.**

*Беседовала*
*Юлия ТЕЛЬПУК.*
*г. Пружаны.*

● ДУМКІ ЎСЛЫХ

# БЕЛАРУСЬ: раней і цяпер (без лічбаў)

— Раней мы жылі ў СССР, а цяпер раптам высветлілася, што мы жывем у цэнтры Еўропы.

— Раней нашы ўлады хавалі ад нас Чарнобыль, а цяпер Чарнобыль хавае нас.

— Раней мы валам валілі на пляжы, цяпер — на загарадныя агароды.

— Раней былі малыя хаты, але ў іх гадавалася шмат дзяцей. Цяпер хаты вялікія, але пустыя.

— Раней не было ні радыё, ні тэлебачання, ды была нацыя. Цяпер жа ёсць беларускае радыё і тэлебачанне, але няма нацыі.

— Раней мы жылі на зарплату, але дапамогі не прасілі. Цяпер жа ўсё часцей працягваем рукі, а гэта непазбежная прыкмета таго, што хутка можам працягнуць і ногі.

— Раней, у шасцідзесятыя, нам так хацелася дажыць да васьмідзесятага, калі ў краіне будзе камунізм, а цяпер, праз сорак гадоў, больш хацела б зноў апынуцца ў шасцідзесятых і слухаць ілжывыя абяцанні.



Фота IREX/ProMedia.

*Раіса ЖМАЧЫНСКАЯ.*
*г. Белаазёрск.*

● ГОЛАС НАРОДА

# ДЗЕ І ЯК ВЫ АДПАЧЫВАЕЦЕ Ў РАЙЦЭНТРЫ ІВАЦЭВІЧЫ?

*Любы з нас, хто хоць колькі часу жыў у правінцыі, неаднаразова чуў(ці сам гаварыў), што жыццё ў такіх маленькіх гарадах, як Івацэвічы, сумнае, што тут усе адзін аднаго ведаюць, пайсці няма куды... Між тым, жыццё імкліва імчыцца наперад, растуць новыя пакаленні. Якім жа бачыцца нашай моладзі адпачынак? Ці задавальняе іх попыт тыя магчымасці для адпачынку, якія мае наш райцэнтр? Вось якія адказы мы пачулі на вуліцах нашага горада.*



**Ваня:** У нашым горадзе многія з задавальненнем наведваюць бар "У Тацьяны", а таксама едуць на "алімпійку", дзе ёсць таксама кафэ, што працуе кругласутачна. Многія, наколькі ведаю, націскаюць на гарэлку, мой адпачынак таксама часта звязаны з моцнымі напоямі.

Лепш за ўсё адпачываецца ў такой кампаніі, дзе знаходзяцца прыгожыя дзяўчаты.



**Дзіма, Ваня:** Ходзім у Дом культуры на дыскатэкі, ходзім у кінатэатр. Па дварах з сябрамі тусуемся. Шкада, што рэстаран "Шчара" на рамонце. Не згодны з тым, што жыць у нашым райцэнтры нецікава. Калі ў вас цікавыя сябры, калі іх шмат, то не так і важна тое, вялікі горад ці не.

**Наташа:** Сямейным адпачываць у райцэнтры няма дзе. Нават нармальнага парку няма. Гэты скверык каля кінатэатра не зусім утульны: машыны ездзяць, чыгуначная станцыя побач, мужыкі выпіваюць. Наш адпачынак зводзіцца да наведвання сваіх сяброў, бо, пакуль дзіця наша маленькае, нікуды не паедзеш.



**Іра, Таня:** Ходзім на дыскатэку ў ДК, ходзім у кінатэатр "Партызан", на танцы ў Любішчыцы. У нас вялікая кампанія, нам сумна не бывае, весела заўжды.

Калі параўнаць нашу маладосць з маладосцю нашых равеснікаў з другіх гарадоў, то, думаем, мы не горш адпачываем, чым хтосьці.



**Сяргей:** Наша кампанія ў Івацэвічах мала тусуецца, мы ездзім на танцы ў Любішчыцы, Жытлін, Стайкі, на Волю. Наколькі мне вядома, шмат хто з моладзі адпачывае менавіта так. На тых жа танцах, у гэтых вёсках, можна пазнаёміцца з той жа івацэвіцкай дзяўчынай...

*Аляксандр ГОРБАЧ,*
*(фота аўтара).*

● НОСТАЛЬГИЯ

**В такой альбом, мои друзья,**
**Признаюсь, рад писать и я...**
*"Е. Онегин", А. Пушкин*

# "Меньше пудры, меньше краски, меньше строй мальчишкам глазки..."

*Зацепила за живое автора этих строк нынешняя невостребованность пусть чуть-чуть ханжеских, но чистых девичьих мыслей прошлых лет. В руках у меня маленький альбомчик, написанный неизвестной барышней где-то в 70-х годах... Имя её, разумеется, я никогда не узнаю.*

*Милая барышня! Вы самая лучшая! Но как Вы, позвольте спросить, оцениваете сегодняшнее "bordeljero" в головах и... таких же альбомчиках современных распутниц?*





"Разрешается ли девушке в первый день знакомства целоваться?"— задаёт сама себе затейница наивный вопрос. "Ни в коем случае! Нельзя! Нужно сначала узнать парня!"-таков испуганно- целомудренный ответ.

Милая барышня! Какая погода на улице нынче? Сегодня ведь разрешается всё, кроме подобных наивных мыслей. Страшно ведь не то, что вас не поймут сегодня, — на вас даже не обидятся. Но предложение сделают. За это ручаюсь, хоть понимаю обиду вашу.

"Красотой не могу я гордиться, ты найдёшь красивее меня. Но любовью могу я гордиться, не найдёшь ты вернее меня".

Милая барышня! Ровный такт вашего сердца, боюсь, заглушит четырёхтактный, металлический грохот двигателей, простите, сердец, которым нежная верность нужна от противоугонных устройств и сигнализаций да ещё может от папы (чтобы алименты исправно платил ). А факел, а цветки, а клятвы до гробовой доски?.. Спросите что-нибудь полегче.

"Люби, люби, но осторожно, люби не всех и не всегда, не забывай, что есть на свете измена, ложь и клевета".

Милая барышня! Я не поэт, но если бы взыграла необходимость оформить подобный гимн, то он начинался словами: "Изменяй, лжи, клевещи, но осторожно...", а заканчивался бы напоминанием: "...не забывай, что есть на свете любовь, надежда, красота". Ваши прекрасные, но испуганные глаза не могут не опечалиться ещё больше, ведь вы, как я понял из оглавления, писали эти строки в 18 лет. Сегодня ж это просто антиквариат! Не знаю то, как кто понимает это слово, я же впрочем понимаю его — как драгоценность.

*Игорь СЕРГЕЙЧИК.*
*г. Пружаны.*

● ПРОВИНЦИАЛЬНЫЕ ИСТОРИИ

# Последний романтик

***Он так привык теряться в томном взгляде этих фиалковых глаз, нежном овале милого лица, зовущих румяных губ, что каждое утро теперь с особым прищуром гренадерился перед бесстрастным зеркалом. Она как всегда появлялась в одно и тоже время, её появление он ощущал, кажется, всей своей натурой и определить её в толпе мог с той лёгкостью, с какой легкостью мы можем определить розу в крапиве.***

Её наряд всегда был продуман, и шляпка как нельзя удачно подчеркивала милый овал ее лица, пальто не могло скрыть ее еще девичьих форм. Ей, похоже, нравилось наблюдать расстерянность в его как бы сердитых глазах и приятно думать, что причиной смятения в этом мужчине, ведущем в детсад мальчика, является она сама...

Была удивительно холодная для этих мест зима: неистребимо крошился с неба мелкий снег, скользили ноги, мелькали торопливые разрумяненные морозом озорные лица. Но уже день догонял ночь, а в полдень по-ударному капало с крыш. Перелом наступил в самом конце марта. Поначалу ленивый, как барин, снег вдруг повалил мокрыми хлопьями, как-то незаметно превратился в дождь, все смешалось на земле и в воздухе, словно долгожданная весна рождалась в муках. Но солнце не робело, и сквозь разорванные вспененные тучи озорно выглядывало, словно подмигивало людям, опять погружаясь в месиво из туч, и люди понимающе улыбались друг другу, словно находились в интересном сговоре.

В одно такое утро он, пройдя от угла до калитки, её не увидел. Не оглядываясь (он никогда не оглядывался) побрел вперед, чувствуя внутри себя сосущую пустоту, которая намекнула ему о том, что эта милая девушка для него что-то значит.

Так прошло еще день, два, четыре, шесть, восемь, десять — и надежды нет. Но однажды утром он ее опять увидел, и его всего впрямь всколыхнуло. Она уже была по-весеннему одета, без шляпки. Встряхивая мелкими кудряшками, стройная, как мальчик, она шла навстречу, и сметение, и радость, и робкий упрек в его глазах был для нее такой наградой, словно ей преподнесли крупный подарок. Пройдя мимо, она подумала, что славно встречать каждое утро этого мужчину с робким взглядом и что он уже для нее что-то значит, а его волнующий взгляд может вылечить лучше, чем десятидневное потребление антибиотиков во время ангины...

Мчались дни, дымилась, словно после сражения, подсыхающая земля, в воздухе разливалась та неповторимая свежесть, какая разливается только весной, и сквозь прищуры взгляды, словно в упор женщины, спокойной наглостью отвечали мужчины, стучали каблуки, визжали тормоза авто, издалека доносился предательский женский смех, тревожа сладостно-тягостную тишину, на деревьях распускалась девственная листва, все дышало весной и тревогой...

Он брёл по парку, он был в том настроении, когда понимаешь всю бессмысленность всех устремлений и желаний, даже жизни, и сама жизнь, как пошлая загадка, вызывала только горькую улыбку. Навстречу также неспеша брела пара, он прямо вздрогнул, когда взглянул и узнал девушку, потом улыбнулся. Она тоже улыбнулась, понимая всю двойственность, странность их отношений.

Он заступил им дорогу; надломились брови ее попутчика, но тот, кому был так дорог этот волнующий взгляд фиалковых глаз, чувствуя то, что любое обращение его будет двусмысленно и странно, промолвил тихо:

— Зачем... Зачем вы меня обманули?..

*Андрей ВОЩИЛО.*
*г. Белоозёрск.*

● ВЕДАЙ НАШЫХ



# Не інтэлектуальнае казіно, але...

Усе мы любім глядзець праграму "Што? Дзе? Калі?" Усе мы захапляемся ведамі знакамітых "знатоков". А вось у Бярозе вырашылі пайсці далей і Іван Іванавіч Гладкоўскі (у мінулым сам удзельнік) стварыў у школах горада інтэлектуальныя клубы.

Першай была СШ №3. Там Іван Іванавіч "скалаціў" вельмі моцную каманду (капітан — Андрэй Белавешкін). І ўжо 8 кастрычніка, праз некалькі дзён пасля стварэння, гэтая каманда паехала на турнір у Брэст, які адбыўся ў Цэнтры маладзёжнай творчасці. Сярод 39 каманд яны занялі шостае месца. Згадзіцеся, што не кожны здольны на такое.

А пасля быў створаны клуб і ў СШ №2. Праўда, яны пакуль не рабілі выездаў з Бярозы, але ў школе праходзіў турнір, на якім супраць маладых энтузіястаў выступілі лепшыя знаўцы школы.

Паміж клубамі кожны тыдзень праходзяць трэнінгі-турніры, на якіх моладзь развівае сваё так званае шэрае рэчыва.

Варта заўважыць, што інтэлектуальныя гульні ў Бярозе — сярод першых па наведвальнасці. А самі інтэлектуалы рыхтуюцца да новых спаборніцтваў.

*Міхась ПАШКЕВІЧ.*
*г. Бяроза.*

